

# Залеская талака

Інфармацыйны бюлетэнь Залескага сацыяльна-дзелавога цэнтра ГА "Сяльчанка" Смаргонского р-на / №9 (27) / верасень2013

## Залессе адфестывaліла…

Фестываль-кірмаш "Залессе запрашае сяброў!" хацеў падпсаваць дождж... Не атрымалася! 21 верасня прастаяў-пратрымаўся цёплы дзень залатой восені - цудоўны шанец сустрэцца з сябрамі, пабачыць землякоў, паслухаць музыку ды згадаць пра дзень нараджэння Міхала Клеафаса Агінскага!

У самым пачатку свята адбылося тэатралізаванае прадстаўленне “Марыя дэ Нэры і Амелія”, пасля якога прысутных парадавала танцавальная група народнага ансамбля песні і танца імя М. К. Агінскага, выканаўшы ўрачысты “Паланэз”.

Фішкай сёлетняга фестывалю стала прэзентацыя дыска рамансаў Міхала Клеафаса, што ніколі раней не выдаваліся, а таксама - новага дакументальнага фільма пра музыку і палітыка “Рана ў сэрцы” рэжысёра Анастасіі Мірашнічэнка па сцэнарыі Алены Антанішынай.






Ужо традыцыйна ў гэты дзень былі ўручаны прызы і сказаны цёплыя словы пераможцам у намінацыях “Таленавітая моладзь”, “Лепшы па прафесіі”, “Лепшы чытач”, “Майстар на ўсе рукі”, “Сям’я года”, “Самы старэйшы” і “Самы маленькі”.

Парадавалі гледачоў сваімі выступленнямі моладзевы гурт “Гоман”, дзіцячая ДШМ імя Агінскага, вакальны гурт “Заляснянка”, узорны ансамбль танца “Вілляначка” і многія-многія іншыя. Не расчаравалі народныя майстры ды фестывальныя падворкі: тут было шмат прыгожага і смачнага! Да сустрэчы ў наступным годзе?

Прапануем землякам пару фотамомантаў свята, а больш цікавых кадраў можна ўбачыць на нашым сайце www.zalesse.by – запрашаем нас чытаць у інтэрнэце!

**Дар'я Ліс**

**Фота Алы Шыцікавай**

## Школьные бизнес-компании – мост в будущее

24 сентября 2013 года в ГУО «УПК Залесский ясли-сад – средняя школа» состоялся семинар «Формирование образовательной среды по экономическим знаниям и основам развития предпринимательства в учреждениях образования. Создание школьной бизнес-компании». В семинаре приняли участие представители учреждений образования: ГУО «УПК Залесский ясли - сад – средняя школа» и ГУО «Средняя школа №16 г. Сморгонь» (на базе которых планируется создание первых школьных бизнес-компаний в Сморгонском районе), ГУО «Раковская средняя школа» Воложинского р-на, представители местных органов власти, бизнеса и общественных организаций… СТАТЬЮ Аллы Страшинской О СЕМИНАРЕ И СОЗДАНИИ ШКОЛЬНЫХ БИЗНЕС-КОМПАНИЙ читайте в одном из ближайших номеров районной газеты «Светлы шлях», а потом и на сайте **www.zalesse.by**.







## Зберажом казку!

Як жа шмат у нас дзетак! Пра гэта міжволі падумала, калі выпадкова завітала з унучкай на дзіцячую пляцоўку, што аднавілася сёлета на вуліцы Піянерскай. Тут ёсць чым пазабаўляцца і дашкалятам, якіх суправаджаюць маладыя мамы, таты або шчаслівыя бабулі-дзядулі, і малодшым школьнікам, і нават старшакласнікам.

Арэлі, горкі, гушкалкі і многае іншае. Усё гэта з'явілася дзякуючы некалькім праектам «Сяльчанкі», а даводзіць да ладу месца адпачынку для дзетак дапамагалі і дапамагаюць неабыякавыя жыхары Залесся. Дзякуй ім за гэта! Супольная праца прынесла добры плён!

Вельмі прыкра, што не ўсе ўмеюць цаніць прыгожае! Ці ж абавязкова мажнаму школьніку лезці на горку, разлічаную на трохгадовую малечу? У выніку — першыя паломкі. Яшчэ адна праблема — смецце, якое даводзіцца прыбіраць жыхарам суседніх дамоў.

**Тамара Ліс**
**Фота Алы Шыцікавай**







## "Суботнік" у чацвер на залескай дзіцячай пляцоўцы

26 верасня зноўку сабраліся неабыякавыя землякі, каб папрацаваць і давесці да ладу нашу дзіцячую пляцоўку: пасадзіць кусты, прыбраць аварыйныя дрэвы, зрабіць агароджу для кветнікаў ды лавачкі са старых шпалаў. Ідэю выкарыстання старых чыгуначных шпалаў у ландшафтным дызайне жанчыны з "Сяльчанкі" прывезлі з горада Любліна, дзе гэтым летам былі актыўнымі ўдзельніцамі фестывалю "Open city".

Дапамогу ў добраўпарадкаванні дзіцячай пляцоўкі аказалі Залескі сельскі савет і яго старшыня Зянон Зянонавіч Грышкевіч, ААТ "Смаргоньселікатабетон", ААТ "Смаргоньлён", чугуначная станцыя "Залессе". Добра папрацавалі таксама актывісткі "Сяльчанкі", мясцовыя бацькі і дзеці (найбольш зацікаўленыя ў стварэнні пляцоўкі жыхары Залесся!) Днямі запланаваны яшчэ адзін суботнік па добраўпарадкаванні дзіцячай пляцоўкі з удзелам Залескай сярэдняй школы-сада.

**Дар'я Ліс**







Заснавальнік ГА "Сяльчанка" Смаргонского р-на / адрас:в.Залессе, вул. Чыгуначная. Гал. рэдактар Дар'я Ліс, тэл. для сувязі +375296553013 www.zalesse.by
250 асобнікаў, распаўсюджваецца бясплатна.